ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXX Но. 285 Нью Ёрк — студзень — 1981 — January — New York Vol. XXX. № 285

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ПЕРАМОГА



**У дзень перамогі: новавыбраны Прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган і Віцэ-прэзыдэнт Джордж Буш (фатаграфія падараваная Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў)**

Бясспрэчна, перамога Рэспубліканскае партыі ў выбарах 1980 году была значнай: рэспубліканцы здабылі ня толькі Белы Дом, але й 12 месцаў у Сэнаце (дзе маюць цяпер бальшыню 53 рэспубліканцаў супраць 46 дэмакратаў пры 1 незалежным) і 33 месцы ў Палаце Прадстаўнікоў (дзе цяпер 192 рэспубліканцы супраць 243 дэмакратаў). За Рональда Рэйгана было пададзена ў выбарах на 8 міліёнаў 300 тысячаў галасоў больш як за Джымі Картэра (у 1976 годзе Картэр меў толькі міліён 700 тысячаў больш галасоў за Форда). З электаральных выбарцаў Рональд Рэйган здабыў 91 працэнт. З усіх выбараў XX стагодзьдзя толькі Франклін Рузвэльт у 1936 годзе і Рычард Ніксан у 1972 годзе мелі больш электаральных галасоў за Рэйгана (98% Рузвэльт і 97% Ніксан).

Амэрыка ў выбарах 1980 году зрабіла таксама выразны зрух направа, у бок кансэрватызму. Перамога рэспубліканцаў для шмат каго была неспадзеўкай. Інстытуты грамадзкае думкі ЗША, з усімі іхнымі навукова-аб'ектыўнымі мэтадамі апытаньня, не прадбачылі й не прадказвалі гэткае выразнае адмоўнае рэакцыі выбаршчыкаў на эканамічныя няўдачы прэзыдэнта Картэра (інфляцыя й беспрацоўе), на ліберальныя спробы падыходу да нутраных праблемаў і на прымірэнства ды ненаважанасьць у замежнай палітыцы, асабліва ў дачыненьні да Савецкага Саюзу.

У перамозе Рэспубліканскае партыі цімалую ролю адыгралі этнічныя (Нацыянальныя) арганізацыі Амэрыкі, упаасобку арганізацыі ўсходня-эўрапейскіх нацыянальнасьцяў. Вось як схарактарызаваў іхную ролю ў выбарах бюлетэнь „Нацыянальныя Навіны Рэспубліканскае Партыі" (GOP Nationalities News) у нумары 8-м за лістапад-сьнежань 1980 году. Бюлетэнь гэты выдаецца Нацыянальнай Радай Групаў Этнічнае Спадчыны Рэспубліканскага Нацыянальнага Камітэту:

„Сёлета этнічныя групы дамагаліся ‚новага пачатку' для лідэраў Амэрыкі і пайшлі за прапановаю Рэспубліканскага Нацыянальнага Камітэту: галасаваць — „дзеля зьмены" — за рэспубліканцаў. Па цэлай краіне нацыянальныя групы адкінулі няўдалае лідэрства Джымі Картэра й далі грунтоўны мандат губэрнатару Рэйгану й рэспубліканскаму кангрэсаваму кіраўніцтву".

Што да беларуска-амэрыканскіх выбаршчыкаў, дык бальшыня іх, як і папярэднімі гадамі, галасавала за рэспубліканцаў. Беларускія выбарныя камітэты былі дзейныя ў штатах Каліфорнія, Агаё, Нью Джэрзі, Мэрылэнд, Мішыгэн, Пэнсыльванія. Было выдрукавана цімала літаратуры, выдадзеныя значкі „Беларусы-Амэрыканцы за Рэйгана-Буша".

Але за рэспубліканцаў бальшыня Амэрыканцаў беларускага паходжаньня галасавала ня толькі таму, што нацыянальныя групы ў Рэспубліканскай партыі лепш арганізаваныя, як у дэмакратаў, а перш-наперш затым, што кандыдат-Рэйган заняў больш станоўкую пазыцыю ў дачыненьні да экспаньсіяністыцкага й агрэсыўнага Савецкага Саюзу.

Бязумоўна ‚падтрымваньне прэзыдэнтам Картэрам справы „правоў чалавека" мела поўнае падтрыманьне сярод Беларусаў Амэрыкі, аднак, Картэрава „міралюбнае", прымірэнчае стаўленьне да савецкага націску па ўсіх кантынэнтах не ўхвалялася ані беларускімі выбаршчыкамі ані выбаршчыкамі наагул з краёў паняволеных або кантраляваных савецкім імпэрыялізмам. Вось чаму „этнічны" голас у выбарах пайшоў у сваёй бальшыні за рэспубліканцаў.

Чаго спадзяюцца Беларусы-Амэрыканцы ад новага ўраду Задзіночаных Штатаў? — Палепшаньня эканомікі, больш наважанага адпору савецкай ваеннай агрэсіі й прапагандаваму наступу Масквы, падтрыманьня палітычных імкненьняў паняволеных камунізмам народаў.

Але ўжыцьцёвіць гэтыя спадзяваньні можна будзе толькі нашай працай на палітычным адрэзку, а таксама нашай актыўнасьцяй культурна-прапагандавай і выдавецкай.

### ЛІСТ ПРЭЗЫДЭНТУ РЭЙГАНУ

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выслала 20 студзеня 1981 году гэткі прывітальны ліст:

Паважаны Прэзыдэнт Рэйган!

Ад імя сяброў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуем Вас зь пераняцьцём найвышэйшае адказнасьці ў нашай дзяржаве, запэўняем нашае станаўкое падтрыманьне Вам ды перасылаем найлепшыя зычэньні.

Шмат амэрыканскіх грамадзянаў беларускага паходжаньня трымаюць цесную сувязь із сваякамі ў роднай Беларусі праз ліставаньне й асабістыя наведваньні. Гэтыя субязі даюць сябром нашае арганізацыі нагоду паказваць людзям у Савецкай Беларусі, як амэрыканскія грамадзяне карыстаюцца ў Амэрыцы свабодай і спрыяльнымі магчымасьцямі, што ім дае гэты край, ува ўсіх галінах жыцьця.

Мы спадзяёмся, Спадару Прэзыдэньце, што ў сваіх дачыненьнях з савецкім кіраўніцтвам Вы зробіце ўсё ў Вашых магчымасьцях, каб разам з замацаваньнем справы міру падтрымаць таксама імкненьні Беларускага Народу да свабоды ды ўжыцьцёўленьня людзкіх і нацыянальных правоў, за якія ён вядзе даўгое змаганьне.

З запэўненьнем малітваў ды з найлепшымі пажаданьнямі

**Шчыра Ваш**
**Антон Шукелайць**
**Старшыня**

## ДЗЬВЕ ПАШТОЎКІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Зь Беларусі на Захад трапілі пад канец году летась, адна за аднэй, дзьве паштоўкі, выдрукаваныя самвыдавецкім спосабам (неафіцыйна). Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі, у Лёндане, перавыдала іх. Абедзьдзе паштоўкі прысьвечаныя 1000-годзьдзю гісторыі Беларусі, на абедзьвюх фігуруе Пагоня. Рысунак першае паштоўкі выкананы ў чырвоным і сярэбраным колерах. На ім напісана: **„Найлепшых зычэньняў у юбілейным годзе! 980 — Беларусь — 1980".** Рысунак другое паштоўкі толькі у сярэбраным колеры. Напіс: **„1000 гадоў Беларусі. 980 — 1980".**

Што да 980 году, дык вось як тлумачыць гэтую дату гісторык Мікола Ермаловіч у артыкуле пад заг. „... Нареклися Кривичи и Дреговичи...", зьмешчаным у органе Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, рускамоўным часапісе „Неман" (1980, Но. 10):

„Сёлета спаўняецца тысяча гадоў з тае пары, як у летапісных аналах упяршыню зьявіліся імёны, што маюць простае дачыненьне да гісторыі Беларусі. Якраз пад 980 годам у ‚Повести временных лет' — найстаражытнейшым летапісе з тых, што дайшлі да нас — было зьмешчанае летапіснае паведаньне пра полацкага князя Рагвалода ды ягоную дачку Рагнеду. Адначасна там казалася й пра тураўскага князя Тура.

„Зьяўленьне першых гістарычных асобаў — падзея выключнае важнасьці ў працэсе станаўленьня народу. З гэтым канчаецца прадгісторыя краю ды пачынаецца ягоная ‚запраўдная' гісторыя, пазначаная выдатнымі падзеямі ды слаўнымі імёнамі.

„Тыя драматычныя падзеі 980 году, якія зафіксаваў летапіс, кідаюць сьвятло на папярэднюю эпоху ды тлумачаць гісторыю далейшага часу. Гэтым яны цікавыя для нас".

На перавыдадзеных у Лёндане экзэмплярах абедзьвюх паштовак выдаўцы ЗБВБ далі тлумачэньні. На першай — пабеларуску, паангельску й пафранцуску — сказана: „1000 год гісторыі Беларусі. Тайнае юбілейнае выданьне з БССР". У ангельскім і францускім тлумачэньнях сказана, што яно „падпольнае" (кляндэстын). Гэтае-ж слова „кляндэстын" ужываецца і ў тлумачэньні на другой паштоўцы (на якой тэксту пабеларуску ўжо няма).

Думаецца, што называць гэтыя паштоўкі „тайным" ці „падпольным" выданьнем няма, бадай, асновы дый патрэбы. „Падпольнасьць" цягне за сабой канатацыю нечага, калі ня супрацьзаконнага, дык прынамся незаконнага. А гэткімі гэтыя паштоўкі ня ёсьць. Дык зваць іх трэба ‚барджэй, неафіцыйнымі выданьнямі, на выпуск якіх не прасілася дазволу цэнзуры, інакш кажучы, самвыдавецкімі. Бо юбілей, які гэтыя паштоўкі адзначаюць і ўшаноўваюць — нічога тайнага ці падпольнага ў сабе ня мае, як гэта відаць хоць-бы сабе з вышэй пададзенае цытаты з артыкулу М. Ермаловіча.

Абедзьве паштоўкі адлюстроўваюць гістарычныя факты, якіх афіцыйная савецкая гістарыяграфія аніяк не запярэчвае, хоць і ня ўвыпукляе іх. Малюнак Пагоні таксама не забаронены, пра што сьветчыць Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя (гл. каляровую ўкладку „Гербы беларускіх гарадоў" у 3-м томе).

Разам з тым паштоўкі гэтыя адлюстроўваюць таксама незапярэчную зьяву сучаснасьці — рост нацыянальнае сьведамасьці на Беларусі, рост інтэлігенцыі ды рост ініцыятыўнасьці ў выяўляньні сваіх пераканаяньняў, якія не заўсёды йдуць упары з палітыкай дэнацыяналізацыі й русыфікацыі Беларусаў, якую праводзіць кампартыя.

Паштоўкі гэтыя вельмі добра можна выкарыстоўваць пры пасыланьні кароткіх прывітаньняў сваім суродзічам і чужынцам. На іх даволі чыстага месца, каб напісаць асноўнае. Яны прыгожа аформленыя з мастацкага й паліграфічнага боку, добрая папера. Нашым абавязкам як мага больш пашыраць іх.

Згуртаваньню Беларусаў Вялікабрытаніі належыцца вялікая й шчырая падзяка за выданьне абедзьвюх паштовак, якія можна выпісаць, пішучы на адрыс:

Byelorussians in Great Britain
52 Penn Road
London N7 9RE
England

**Я. З.**

## БРАЦЬЦЯМ МАІМ, ШТО ДАЛЁКА АД ХАТЫ

*Каляда, Каляда! Цішыня над зямлёю.*
*Сьвяты вечар сягоньня у добрых людзей.*
*Заінелыя дрэвы стаяць чарадою,*
*Сьнегам ўсыпала сьцежкі да нашых дзьвярэй.*

*Каляда, Каляда! Зь неспакойных дарогаў*
*І з чужых берагоў кліча хата свая*
*Да пакінутай Маці, да Бацькі старога,*
*Дзе за стол ў Сьвяты Вечар зьбярэцца сям'я.*

*Пакаштуюць куцьці, засьпяваюць калядкі,*
*Са сьлязьмі адыйшоўшых успомняць дзядоў.*
*Ў гэту ноч нарадзілася ў ясьлях Дзіцятка,*
*Што прынесла з сабою дабро і любоў.*

*Гэта сьвятасьць душы, гэта моц без аружжа,*
*Гэта яснасьць сумленьня, няведаньне зла,*
*Разуменьне няшчасных і помач нядужым,*
*Гэта праўда, што сэрцы да Бога ўзьняла.*

*Ў бедных ясьлях прыціхла Чалядка Сьвятая,*
*Зорка ў небе да Бога паказвае шлях,*
*І бягуць пастушкі, мудрацы пасьпяшаюць,*
*Каралі йдуць на зорку з дарамі ў руках.*

*Тут ня знатнасьць, багацьце, а веліч і праўда,*
*Прышлі людзі сьвятое з надзеяй вітаць.*
*Толькі Ірад суровы ня ведае рады —*
*Няма сілы такое, каб праўду стрымаць.*

*Яна справядлівасьцю зь цемры праб'ецца,*
*Дабро ўсюды свой дзейны пакіне нам сьлед,*
*Асьвеціць любоў чалавечыя сэрцы*
*Ды мір апануе разрозьнены сьвет!*

*І зьгіне варожасьць, і пройдзе трывога,*
*І кожны патрапіць ў жыцьці зразумець,*
*Што ён на зямлі нашай частачка Бога,*
*Які перамог сваёй сьмерцяю сьмерць!*

*Дык са Сьвятам, Браты, з Новым Годам, Сястронкі! —*
*Няхай еднасьць і згода у кожнай сям'і!*
*Блаславеньне Вам шлем ад Радзімай Старонкі,*
*Міру, шчасьця жадаем для цэлай зямлі!*

*З Новым Годам далёкія, мілыя Родзічы!*
*Не забудзьце пра гнёзды! — Мы сэрцам пры Вас!*
*Мы вартуем парог наш, з шляхоў ня зыходзячы,*
*У цяжкі і ў сьвяточны жыцьця свайго час!*

*Ларыса Геніюш, 1980 г.*

## „НА РОСТАНІ ЎСХОДНЯ-ЗАХОДНІХ ДАРОГ"

„На ростані ўсходня-заходніх дарог яны, дарагая, Цябе ўкрыжавалі" — гэткімі словамі зварачаўся да свае Радзімы паэта-ўзвышэнец Язэп Пушча ў 1920-х гадох яшчэ. Сучаснай ілюстрацыяй да гэтых словаў можа служыць зьмешчаная ніжэй частка карты схэмы. Узятая яна з амэрыканскага тыднёвага часапісу „Ньюзўік" (за 15 сьнежня летась), у якім быў артыкул пра пляны Масквы на выпадак інтэрвэнцыі ў Польшчы. Стрэлкі паказваюць, адкуль будзе ўводзіцца ў Польшчу савецкае войска, калі-б дайшло да інтэрвэнцыі. Гэта, бадай, найкрасамоўнейшы камэнтар да пытаньня пра геапалітычнае палажэньне Беларусі: „на ростані ўсходня-заходніх дарог".

Стрэлкі гэтыя тлумачаць нам сяньня, чаму на Беларусі гэтак шмат забароненых лясных зонаў, дзе ні грыбоў ні ягадаў зьбіраць не дазволена. Тлумачаць яны таксама, чаму на Беларусі гэткая напорная русыфікацыя, суровая цэнзура, чаму гэтак груха з выявамі нацыянальнае самаабароны.

Газэта „Нью Ёрк Таймс" у сваім аналізе савецкіх мабілізацыйных захадаў у вадказ на падзеі ў Польшчы пісала (9 студзеня 1981):

„Як выглядае, ваенныя мерапрыёмствы ў Балтыцкай і Беларускай ваенных акругах прайшлі даволі гладка. Але аналітыкі адзначаюць, што гэтыя два раёны вельмі важныя для савецкага камандваньня ды што і войска і транспартныя магчымасьці там вышэйшае якасьці, як у іншых раёнах".

Запраўды, недарма завуць Беларусь „варотамі Савецкага Саюзу".

**А. Будзіч**




**Тры кірункі, зь якіх — на выпадак інтэрвэнцыі — будзе ўводзіцца савецкае войска ў Польшчу: з Горадні, Берасьця й Львову (паводля амэрыканскага часапісу „Ньюзўік").**

### КАМПАРТЫЯ ЗША Ў ВЫБАРАХ

Паводля дадзеных Фэдэральнае Выбарнае Камісіі ЗША, у выбарах 1980 г. за камуністычных кандыдатаў на прэзыдэнта й віцэ-прэзыдэнта Амэрыкі, Гаса Гола й Анджэлю Дэйвіс, было пададзена 43 тысячы 871 голас, а ўсіх галасоў было 86 міліёнаў 495 тысячаў 678. Інакш кажучы, кандыдаты кампартыі ЗША дасталі адну дваццатую працэнту ад усіх галасоў.

Хоць у леташніх прэзыдэнцкіх выбарах камуністычныя кандыдаты балатаваліся ў 26 штатах, за іх было пададзена менш галасоў як у выбарах 1976 году, калі кандыдаты кампартыі ЗША фігуравалі ў 16 штатах і здабылі 58 тысячаў 992 галасы.

Лік галасоў за камуністых у леташніх прэзыдэнцкіх выбарах быў нагэтулькі мізэрны, што савецкая прапаганда, пішучы пра амэрыканскія выбары, маўчала пра кандыдатаў „работніцкае клясы": сорамна было прызнацца, наколькі станоўка выбаршчыкі — Амэрыканцы адкінулі прадстаўнікоў „перадавога вучэньня".

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 60-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

**Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі**

Сьвяткаваньне тут ладзілася Задзіночаньнем Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў 29-га й 30-га лістапада.

У суботу 29-га былі ўдэкараваныя беларускімі сьцяжкамі магілы вэтэранаў і заслужаных Беларусаў. Пры Помніку Беларускім Гэроям, што на беларускім магільніку ў Іст Брансьўіку, быў зложаны вянок пад гукі жалобнага маршу „Сьпі пад курганам гэрояў" у прысутнасьці сьцяжное варты.

У нядзелю 30-га лістапада паніхіду па палеглых адслужыў а. Аляксандар Яноўскі ў царкве Жыровіцкае Маці Божай з удзелам варты вэтэранаў.

Акадэмія, якую адчыніў старшыня ЗБ-АВ капітан Сяргей Гутырчык, пачалася супольна прасьпяванай песьняй „Беларусь наша Маці-Краіна". Кароткае слова меў вэтэран Уладзімер Русак, які, адзначаючы гэраізм Случчакоў, успомніў і сьвежую магілу вялікага змагара, д-ра Станіслава Станкевіча да працы якога прысутныя ўшанавалі памяць хвілінай цішыні. Хор прасьпяваў „Сьпі пад курганам гэрояў".

Др. Вітаўт Кіпель прачытаў рэфэрат на тэму дня. Прэлегент падкрэсьліў гэраічнае й масавае выступленьне Беларусаў Случчыны супраць бальшавіцкае ўлады, назваўшы гэтае выступленьне Беларускім Фронтам Случчыны.

Уздым Случчыны найлепш выразіўся ў словах, вышытых на сьцягох паўстанцаў — „Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Дух слуцкага Збройнага Чыну й змаганьня за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку, сказаў дакладчык, усьцяж натхняе нас да дзейнасьці й змаганьня за свабоду Беларусі.

Адной з прычынаў таго, што Слуцкае Паўстаньне не дало жаданых вынікаў, была нястача дапамогі звонку, сказаў прэлегент. Беларуская Нацыянальна-вызвольная справа была мала ведамая дзяржавам Антанты, хоць арганізатары ды абаронцы БНР і зварачаліся да іх па дапамогу.

Сяньня, сказаў др. Кіпель, мы мусім гэта добра ўсьведамляць сабе. І каб у будучыні не паўтарылася падобнае стаўленьне да нас, др. В. Кіпель заклікаў усіх утрымваць ды разьвіваць кантакты з палітычнымі дзейнікамі краінаў Вольнага Сьвету. Гэтую акцыю, сказаў ён, удала праводзяць сяньня шмат якія суродзічы па ўсім сьвеце, у тым ліку й Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у штаце Нью Джэрзі.

Урачыстая акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

**М. Т.**

**Рычманд Гіл, Нью Ёрк**

Угодкі Слуцкага паўстаньня ладзіла Згуртаваньне Беларуска-амэрыканскіх Вэтэранаў, аддзел Нью Ёрк, у нядзелю 7-га сьнежня. Багаслужбу й паніхіду ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага (104-29 Атлянтык Авэню) адслужыў Архімандрыт Язэп, адзначыўшы ў прачулай пропаведзі веліч ахвяры тых, што пайшлі змагацца за волю свайго народу. На паніхідзе вэтэраны стаялі із сьцягамі, а вернікі з запаленымі сьвечкамі тварылі маліцьвенны й урачысты настрой.

Папаўдні ў залі Грамадзкага Цэнтру адбылася акадэмія. Быў выкананы амэрыканскі гімн. Сп. Вінцусь Мярляк зайграў на флейце „Беларусь наша маці-краіна". Адчыніў акадэмію старшыня аддзелу вэтэранаў сп. Адам Горбат, прамовіў сьцісла й дамэтна аб значаньні Слуцкага паўстаньня й важнасьці памяці пра яго. Уступное слова сказаў сп. К. Мярляк, заклікаўшы ўсіх прысутных прырачы палеглым змагаром працягваць змаганьне да пераможнага канца. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць беларускіх змагароў ды адсьпяваны жалобны марш „Сьпі пад курганам гэрояў".

Рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні чытаў сп. В. Шчэцька: пра падзеі на Случчыне ад Зьезду Случчыны 14.XI.1920 г. да раззброеньня Слуцкае брыгады Палякамі 28.XII.1920 г., а таксама пра дачыненьні паміж Беларусамі й Лятувісамі (1918-1923 гг.) ды беларускія вайсковыя аддзелы ў Лятуве.

Сп. Мярляк прачытаў прысланыя прывітаньні, пасьля чаго Вінцусь Мярляк выканаў на флейце „Пагоню" ды антракт з опэры „Кармэн" Бізэ. Беларускім нацыянальным гімнам закончылася афіцыйная частка.

Супольны абед, на якім была разыграная лятарэя, прайшоў у прыемнай сямейнай атмасфэры, зь якога, думаецца, у ўдзельнікаў засталося добрае ўражаньне, а паніхіда й акадэмія пакінулі пачуцьцё вялікае страты тых, што аддалі жыцьцё сваё ў змаганьні за Беларусь ды гэтым забавязалі нашчадкаў да далейшага змаганьня.

**В. Ш.**

**Кліўленд, ЗША**

Акадэмію ў гонар палеглых Гэрояў Беларусі ладзіў 27 лістапада аддзел Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў. Айцец Максім у суслужэньні Пратадыякана Міхася адслужыў паніхіду. Акадэмія адбылася у царкоўнай залі. Адкрыў акадэмію капітан Гасьцееў. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць палеглых гэрояў. Прагучаў жалобны марш, „Сьпі пад курганам гэрояў".

Старэйшы лейтэнант М. Ягадзік прачытаў цікавы рэфэрат на тэму дня, адзначыўшы важнасьць гэткіх падзеяў як Акт 25 Сакавіка й Слуцкае Паўстаньне, якімі Беларусь заявіла перад цэлым сьветам пра сваю волю, свае імкненьні да незалежнасьці.

З прамовай выступіў ген. Я. Сажыч. Прамаўлялі таксама сп. М. Арцюх, Пратадыякан Страпко. Сп. Віктар Сьпічонак цікава расказаў пра свае змагарныя дарогі, цяжкія абставіны ваеннага часу. Прыгадаў ён пэрыяд польскае акупацыі перад вайной, савецкую акупацыю зь еййымі жорсткімі вывазамі людзей у Сібір, ваенны й паваенны час: жыцьцё ў Парыжы, Манрэалі ды нарэшце прыезд у Кліўленд.

Хочацца тут адзначыць, што сп. В. Сьпічонак, не зважаючы на дзьве вельмі цяжкія апэрацыі, знаходзіць сілы, каб памагаць у царкоўных службах ды браць удзел ува ўсіх беларускіх імпрэзах.

**П. Б.**

**Брадфард, Англія**

Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 23 лістапада, арганізаванае мясцовым аддзелам Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Паніхіду па палеглых адслужыў Мітрафорны Пратаярэй Янка Абабурка. Калі хор пяяў „Вечная памяць", у шмат каго з прысутных мігцелі сьлёзы ў вачох.

Па паніхідзе, у Беларускім Грамадзкім Доме была праведзеная акадэмія, прысьвечаная Случчакам. Прыбылых Беларусаў вітаў старшыня аддзелу сп. Хведар Лемяшонак. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць палеглых.

Сп. Станіслаў Мак прачытаў вельмі цікавы рэфэрат пра гістарычныя падзеі на Случчыне ў пэрыядзе паўстаньня. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем жалобнага маршу „Сьпі пад курганам гэрояў".

Па афіцыйнай частцы адбылося сьціплае прыняцьцё, прыгатаванае сп-няй Марыяй Лемяшонак. У сугучнай з урачыстасьцяй атмасфэры прайшоў сяброўскі вечар з гамонкай пад ціхія напевы зь беларускіх кружэлак. Вельмі прыемна было бачыць, што сабралася шмат Беларусаў, у ліку якіх былі таксама сябры гуртка „Васілёк".

**Я. Я.**

**Штутгарт, Зах. Нямеччына**

Начальнік Генэральнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіч у прывітаньні-заклiку з нагоды 60-х угодкаў Слуцкага Патрыятычнага Ўздыму напісаў:

„Змаганьне за волю й лепшую долю нашага народу трывае далей. У той час, як беларускі народ на бацькаўшчыне ўсімі сіламі бароніцца ад русыфікацыі, гаспадарчага, культурнага й рэлігійнага прыгнёту, мы ў Вольным Сьвеце нашырэм вызвольную Ідэю нашага народу, Ідэю Вольнай і Незалежнай Беларусі . . .

„У гэты Юбілейны 60-ты Год сьвяткаваньня памяці вялікай самаахвярнасьці Случчакоў заклікаю Вас усіх, Дарагія Сябры й Суродзічы, да самаахвярнасьці. Заклікаю Вас унесьці сваю ахвяру ў Вызвольны Фонд БВФ і ў Беларускі Нацыянальны Фонд, якія аплачваюць удзел Беларускай Рэпрэзэнтацыі на міжнародных канфэрэнцыях . . .

„Гэтай сваёй матар'яльнай ахвярай Вы падтрымаеце Ідэю слаўных Случчакоў і выкажаце сваю салідарнасьць з цэлым беларускім народам у ягоным змаганьні за лепшую долю й за аднаўленьне Вольнай і Незалежнай Беларусі".

**Сыднэй, Аўстралія**

Беларусы Сыднэю адзначылі 60-я ўгодкі Слуцкага змаганьня урачыстасьцямі 23 лістапада . Па багаслужбе ў праваслаўнай царкве ў Бэнкстаўне адбылася акадэмія ў залі Беларускага грамадзка-культурнага клюбу. Прывітаў прысутных старшыня клюбу сп. К. Сіткоўскі. Па прачытаньні сп. М. Лужынскім верша Алеся Салаўя „Гэроям Бацькаўшчыны" сп. А. Смаль выступіў з рэфэратам, добра прадума-

**(Заканчэньне на 5-ай бач.)**

# У ПАМЯЦЬ ДР. СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА



**Мамэнт апошняга разьвітаньня з др. Станіславам Станкевічам 8-га лістапада 1980 году. Паніхіду служыць Архімандрыт Уладзімер Тарасэвіч**

У нядзелю 21 сьнежня 1980 году, калі мінула сорак дзён па сьмерці сьв. пам. Станіслава Станкевіча, беларуская грамада Нью Ёрку й ваколіцаў ушанавала памяць Нябожчыка паніхідай у катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлянтык авэню ў Брукліне (служыў а. Расьціслаў Войтанка) ды за бяседным сталом у залі пад царквой. Прыбылі на бяседу таксама госьці: др. Васіль Гласкоў, атаман-прэзыдэнт і старшыня Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва, др. Алэкса Калынык ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Архімандрыт Язэп Строк, настаяцель суседняга беларускага праваслаўнага прыходу імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, сп.сп. К. Мярляк, С. Жамойда ды іншыя.

Бяседа пачалася малітваю, Архімандрыт Язэп благаславіў сталы.

Успамінамі пра Нябожчыка падзяліліся:

Др. В. Гласкоў, шматгадовы супрацоўнік і прыяцель др. Станкевіча, адзначыў шырыню пагляду і палітычную празорлівасьць Нябожчыка, калі адразу-ж па вайне ён быў першым генэральным сакратаром Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН), ініцыятарам выданьня кнігі пра генацыд народаў СССР, што выйшла двума выданьнямі паанглельску ў выдавецтве Інстытуту Вывучэньня СССР у 1950-х гадох, ды ініцыятарам іншае арганізацыйна-палітычнае й навуковае дзейнасьці.

Др Я. Запруднік нагадаў пра ролю др. Ст. Станкевіча, былога рэрактара „Беларуса", у трыманьні шляхом друкаванага слова кантакту паміж расьсеяленымі на Захадзе Беларусамі, а таксама з суродзічамі на Бацькаўшчыне.

Сп. М. Кунцэвіч падзяліўся ўспамінамі пра маладога Станіслава Станкевіча зь гімназіяльных часоў у Вільні, дзе ўжо тады ён адзначаўся працаздольнасьцяй і дынамізмам у грамадзкай працы.

Сп. М. Тулейка расказаў пра сястру сп-ні Зіны Станкевіч, Веру Сініцыну, выкладчыцу беларускае мовы ў Нясьвіжы, выдатнага педагога й асобу моцнаю нацыянальным духам, якая памерла колькі месяцаў таму. Гаворачы пра сьв. пам. Станіслава, сп. Тулейка адзначыў веліч ягонае працы, энцыкляпэдычны характар пакінутае ім выдавецкае спадчыны, у якой задакумэнтаваная нашая паваенная гісторыя.

Прадстаўнік Украінскага Кангрэсавага Камітэту сп. А. Калынік гаварыў пра выдатнае супрацоўніцтва др. Станкевіча зь іншымі нацыянальнымі арганізацыямі ды прыгадаў сваю даўную сувязь зь Беларусамі й Беларусяй — яшчэ ў 1932 годзе, сказаў сп. Калынік, ён быў у Віцебску, падаўшыся туды з Украіны з думкаю перабрацца на Захад, але ў Віцебску яго арыштавалі як сябру Саюзу Вызваленьня Украіны.

Др. В. Тумаш сказаў, што йшчэ зарана падсумоўваць вынікі працавітага жыцьця сьв. пам. Станіслава Станкевіча, чалавека ня толькі вялікае энэргіі й працавітасьці, але й глыбокага беларускага патрыятызму. Др. Тумаш нагадаў, што з Арляняты, адкуль паходзіў Нябожчык, выйшлі, таксама зь сям'і Станкевічаў, іншыя выдатныя дзеячы: кс. Адам Станкевіч, Станіслаў Станкевіч (кнігар), др. Янка Станкевіч.

Нябожчык пакінуў па сабе, сказаў др. Тумаш, больш за паўтысячы нумароў газэты „Бацькаўшчына" й каля 200 нумароў „Беларуса". Дзеля параўнаньня: „Нашае Ніва" выйшла каля паўтысячы нумароў, а іншае вялікае беларускае газэты „Крыніца", рэдагаванае Адамам Станкевічам, выйшла 700 нумароў.

Апрача „Бацькаўшчыны" й „Беларуса" др. Ст. Станкевіч адрэдагаваў у Мюнхэне каля 20 нумароў „Беларускага Зборніка" ды пад 50 іншых працаў Інстытуту вывучэньня СССР, а таксама чатыры кнігі „Запісаў" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нябожчык, сказаў др. Тумаш, запраўды збудаваў сабе помнік, якога ня зьнішчыць час.

Архімандрыт Язэп Строк, падзяліўся ўспамінамі пра сястру сп-ні З. Станкевіч, Веру, якую ён ведаў як настаўніцу ў Нясьвіжы йшчэ ў першай палавіне 1920-х гадоў, ды пра Нябожчыка, зь якім яму давялося быць разам у 1941 годзе ў Барысаве, дзе др. Станкевіч быў прадстаўніком сьвецкае ўлады, а а. Строк — духоўнае. Ад таго часу й праз усе далейшыя гады іх вязала дружба й супрацоўніцтва.

Сп. Васіль Русак ад імя суродзічаў у Нью Бранзьвіку адзначыў выдатны ўдзел сьв. пам. Станіслава Станкевіча ў жыцьці ньюбранзьвікаўскае беларускае грамады сваімі наведваньнямі й выступленьнямі з прамовамі й дакладамі.

Сп. К. Мярляк гаварыў пра патрэбу ня толькі далейшае працы, асабліва на выдавецкай ніве, але й пра патрэбу паправіць тыя дачыненьні паміж Беларусамі Нью Ёрку, што папсаваліся былі ў мінулым. Пра газэту „Беларус" сп. Мярляк сказаў, што яна — паказальнік нашае грамадзкае сьпеласьці ды служыць каналам камунікацыі, без чаго мы ня можам функцыянаваць як грамада. Прамоўца заклікаў да далейшага выдаваньня газэты.

Малітваю закончылася бяседа ў памяць вялікага беларускага патрыёта й працаўніка др. Станіслава Станкевіча.

**Я. З.**

# ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў лістападзе 1980 году была атрыманая ад ахвярадаўцаў замік кветак на магілу Сьв. Пам. Станіслава Станкевіча сума 201.00 дал.

Сьпіс ахвярадаўцаў быў пададзены у № 283-284 (за лістапад і сьнежань) газэты „Беларус".

**Усім Паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае** беларускае дзякуй!

***

На Памінальнай бяседзе 21-га сьнежаня 1980 году у 40-вы дзень пасьля сьмерці Сьв. Пам. Ст. Станкевіча склалі ахвяры на Выдавецкі Фонд кнігі Янкі Купалы наступныя асобы ў амэрыканскіх далярах: Станкевіч Зінаіда 50.00, Русак Васіль 20.00. Станкевіч Вячаслаў 20.00, Касьцюкевіч Юрка 20.00, др. Набагез Уладзімір 20.00, Мерляк Кастусь 20.00, Драздоўскія Пётр і Юрка 20.00, інж. Рагуля Міхась 20.00, Сп-ня Каханоўская 15.00, па 10.00 даляраў склалі ахвяры: ген. Гласкоў Васіль, Міцкевіч Александар, Сп-чна Орса Галіна, Азарка Янка, Міцкевіч Валентын, Зыбайла Пятро, Кунцэвіч Мікола, Гутырчык Сяргей, Шукелайць Антон, Сп-ня Верабей Марыя, Верабей Кастусь, др. Тумаш Вітаўт, сп-чна Станкевіч Раіса, Конюх Пётра, Тулейка Міхась, Яновіч Болесь 5.00, Сп-ня Станкевіч Марыя 1.00; Разам 361.00.

Сп-ва Ванда й Міхась Махначы ахвяравалі 25.00; усяго разам у сьнежані 1980 году — 386.00 дал.

Разам з папярэднімі ахвярамі 5.297.36 амэрыканскіх даляраў.

Усім Паважаным Ахварядаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

 



# 60-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

(Заканчэньне з 2-й бач.)

ным, зьмястоўным і глыбока патрыятычным. Прэлегент затрымаўся на гісторыі Слуцкага фронту Рады БНР, падкрэсьліў вялікую ахвярнасьць і любасьць да Бацькаўшчыны беларускае Маці, што пасылала на змаганьне за волю народу сваіх сыноў, якія былі ёй даражэйшымі за ейнае собскае жыцьцё. На заканчэньне сп. Смаль папрасіў усіх ушанаваць хвілінаю маўчаньня памяць палеглых у змаганьні за лепшую долю нашага народу, за вольную Беларускую Дзяржаву.

Алесь Зуй, сп-ня А. Каранеўская й сп. А. Качан прачыталі прынагодныя вершы А. Салаўя й М. Кавыля.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Згодна з традыцыяй сяброўкі Жаночага Камітэту (старшыня — сп-ня О. Тамашэўская) прыгатавалі для ўдзельнікаў багаты пачастунак. За смачныя стравы рупныя гаспадыні былі ўзнагароджаныя „многімі летамі".

Старшыня клюбу падзякаваў сп. Смалю й гаспадыням пад бурныя воплескі прысутных.

**А. К-я**

### Паўдзённая Аўстралія

Памяць Слуцкіх Змагароў і ўсіх тых, што ў першую й другую сусьветныя войны аддалі сваё жыцьцё, каб жыла вольная й незалежная Беларусь, была ўшанаваная 30-га сьнежня.



**Айцец Аўген служыць паніхіду па Слуцкіх Гэроях у Адэляйдзе (Аўстралія)**

Рыхтавацца да сьвята пачалі йшчэ напярэдадні: руплівыя жанчыны й мужчыны нарыхтавалі ежы, прыбралі залю, падмялі навокала царквы, царкву ў сярэдзіне ўпрыгожылі кветкамі. Прыемна й радасна было пабачыць вынікі працы сяброў і сяброўак, што аддана працуюць на царкоўна-грамадзкай ніве.



**Мяшаны хор у Адэляйдзе выконвае Беларускі нацыянальны гімн на ўрачыстай акадэміі.**

У нядзелю 30-га царква запоўнілася прыхаджанамі й гасьцямі. Літургію й паніхіду па Слуцкіх Гэроях адслужыў а. Аўген Сітнік. У часе паніхіды стаяла ганаровая варта зь беларускім і аўстралійскім сьцягамі. Па заканчэньні паніхіды царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса прапяяў рэлігійны гімн „Магутны Божа".

Акадэмія адбылася ў прыцаркоўнай залі. Удзельнікаў было гэтулькі, што давялося прыносіць дадатковыя крэслы. Урачыстасьць адчыніў старшыня парахвіяльнае рады сп. К. Станкевіч. Мяшаны хор і ўсе ў залі прапяялі беларускі нацыянальні гімн ды ўшанавалі часінай цішыні памяць палеглых, а тады хор пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса й акампанімэнт акардыяністага сп. М. Кандрусіка выканаў жалобны марш „Сьпі пад курганам гэрояў". Айцец Аўген блаславіў ежу і ўсе селі за сталы.

Па падсілкаваньні й кароткім перапынку пачалася другая частка. Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі сп. Янка Ролсан, прывітаўшы ўсіх із сьвятам, прачытаў прысланыя прывітаньні ды зьмястоўны рэфэрат на тэму дня. Хор выканаў дзьве патрыятычныя песьні: „Марш БКА" на словы Янкі Ролсана, кампазыцыі М. Бурноса, і „У гушчарах", а таксама лірычныя: „Колькі ў небе зор" „Ой, пайду я выйду" ды „На выгнаньні".

Вялікае задавальненьне прынёс слухачом наш здольны дэкляматар-гумарысты сп. В. Зеляneўскі, якога тры разы выклікалі воплескамі на авансцэну, дзе ён і прачытаў тры гумарыстычныя апавяданьні: „Як я жаніўся", „Палясоўшчык" ды „Вучоны бык".

На сьвяткаваньні была гасьця з Бацькаўшчыны (Беласточчына), маці нашага акардыяністага М. Кандрусіка, якой пажадалі вясёлага побыту ў Аўстраліі ды прапялі „Многая лета". Рашчуленая сп-ня Кандрусік праз сьлёзы падзякавала за цёплае прыняцьцё ды зачаравала ўсіх сваім голасам (хоць і мае ўжо 74 гады), выканаўшы народныя песьні „Баба Аксюта й дзед Тамаш" і „Прымакі". На заканчэньне мастацкае часткі ўнукі бабы Кандрусік Лара й Юльлян, пад акампанімэнт бацькі, выканалі песьню „Люблю наш край", што выклікала буру воплескаў.

Сяброўская бяседа трывала йшчэ доўга ў вельмі прыемнай атмасфэры.

**Янка Яр**

---

*ПРАФЭСАРА ЎЛАДЗІМЕРА СЯДУРУ*

*зь 70-мі ўгодкамі жыцьця ды 50-мі творчае працы як пісьменьніка, літаратурнага крытыка, журналістага ды дасьледніка-навукоўца ў галінах беларусаведы й дастаеўскаведы шчыра вітае ды далейшых доўгіх гадоў творчага жыцьця й новых дасягненьняў у галіне літаратуры й навукі жадае*

*УПРАВА*
*Беларускага Інстытуту*
*Навукі й Мастацтва*

---

Цэнтар Мастацтва й Навукі імя Робэрсана ў гор. Бінгамтане, штат Нью Ёрк, паведамляе, што **ад 1-га лютага па 15-га сакавіка** ў галярэі Дыкэнсана адбудзецца выстаўка

**„СЛАВЯНСКАЕ ТЭКСТЫЛЬНАЕ МАСТАЦТВА"**

на якой будуць паказаныя тэкстыльныя вырабы зь Беларусі, Украіны, Расеі, Польшчы ды іншых славянскіх краёў. Усе вырабы былі прывезеныя ў Амэрыку імігрантамі з гэных краёў і шмат зь іх — унікальныя экзэмпляры народнага мастацтва.

Выстаўку можна будзе наведваць штадзённа ад 1-га лютага да 15-га сакавіка.

Адрыс выстаўкі: 30 Front Street
Binghampton, N. Y.
Tel.: (607) 772-0660

**Ад Рэдакцыі:** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, удзельнік выстаўкі, паведаміў нам, што беларускія экспанаты паходзяць з розных мясьцінаў Беларусі, ад вёскі Неглюбкі да Віленшчыны й ад Невеля да Белае Падляскі, ды ўлучаюць вопратку, тканіны, слуцкія паясы й іншыя прадметы.

---

# ТЫДЗЕНЬ СЛАВЯНСКІХ КУЛЬТУРАЎ

У часе ад 9-га да 16-га лістапада 1980 году ў Нью Ёрку адбыўся трэйці гадавы фэстываль славянскіх культураў. Ён быў зладжаны арганізацыяй Тыдзень Славянскіх Культураў, якая належыць да Рады Славянскае Спадчыны ў Амэрыцы.




**Фрагмэнт з Выстаўкі Народнага Мастацтва**

Управа арганізацыі складаецца із старшыні Ю. Вуйновіча (Сэрб), галоўнага заступніка С. Крэгера (Славэнец), сакратара Р. Станкевіч (Беларуска) і прынцэсы М. Т. Друцкай (Расейка). У Раду Дырэктароў арганізацыі ўвайшлі прадстаўнікі наступных славянскіх народаў: Беларусаў, Баўгараў, Македонцаў, Палякоў, Расейцаў, Сэрбаў, Славакаў, Славэнцаў і Украінцаў.

Ад Беларусаў увайшлі ў арганізацыю і ўключыліся ў працу: Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды Арганізацыя Беларуска - Амэрыканскае Моладзі, прадстаўнікі якіх бяруць удзел у паседжаньнях арганізацыі.

Тыдзень Славянскіх Культураў паставіў за мэту пашыраць веды пра славянскія народы паміж Амэрыканцаў ды папулярызаваць праблемы ня толькі правоў чалавека, але й правоў кожнага славянскага народу.

Пры цесным супрацоўніцтве мы маем нагоду пазнаёміцца бліжэй і міжсобку, пазнаёміцца з нацыянальнай спадчынай кожнага з народаў ды ацаніць праз параўнаньне іхную вагу й вартасьць.

Праводзячы супольныя фэстывалі народнае спадчыны, мы паказваем як мы адрозьніваемся ад сваіх суседзяў: экспанаты выставак, нашы народныя касьцюмы, народныя песьні ды танцы красамоўна й пераконліва сьветчаць пра гэта.

Фэстываль 1980 году пачаўся ў нядзелю 9-га лістапада канцэртам народных танцаў. Кіраваў і адказным быў за яго сп. Ю. Томаў (Македонец), дырэктар вялікага югаслаўскага ансамблю. Бралі ўдзел у выступленьні танцавальныя групы: беларуская, польская, расейская, славацкая й югаслаўская (ансамбль Томава, які выканаў танцы Харватаў, Сэрбаў, Басьнійцаў і Македонцаў). Выступаў таксама славэнскі мужчынскі хор з народнымі песьнямі. Беларускі танцавальны ансамбль БААМ „Васілёк" (8 параў танцораў) пад кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана выступіў з трыма танцамі: полькай „Васілёк", „Лявоніхай" ды „Карагодам".



**Камітэт „Тыдня Славянскіх Культураў".**
**Стаяць у першым радзе зьлева направа: М. Т. Друцкая, Р. Станкевіч, І. Дуцікава, С. Крэгер, Л. Дэмко, Ю. Вуйновіч, І. Стэцура, Ю. Томаў. У другім радзе: М. Зупанчыц, Дж. Крупа, Т. Міхайлаў, др. В. Тумаш, Дж. Прэлог, В. Кёрнс.**

У той самы вечар адбылася вечарына для моладзі ў студыі сп. Томава.

Афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня славянскіх культураў было ў панядзелак 10-га лістапада ўвечары ў будынку Украінскага Інстытуту на Пятай авэню. На адкрыцьці былі прадстаўнікі гарадзкое ўправы Нью Ёрку, старшыні й прадстаўнікі славянскіх арганізацыяў, карэспандэнты газэтаў, радыё ды прадстаўнік Аб'еднаных Нацыяў.

Урачыстасьць адкрыў старшыня Тыдня Ю. Вуйновіч і перадаў голас гасьцям. Сп-ня І. Бадыё, старшыня Рады Этнічных Дачыненьняў штату Нью Ёрк, прачытала прывітаньне ад губэрнатара штату Г'ю Кэры. Ад імя мэра Нью Ёрку Э. Коча выступіў сп. Ш. Файн, ад Рэспубліканскае партыі й Рады Нацыянальнасьцяў — сп. М. Недзяльковіч. Др. В Кіпель прамаўляў ад імя губэрнатара штату Нью Джэрзі Б. Бэрна. Былі атрыманыя прывітаньні з Вашынгтону ад прэзыдэнцкага кандыдата Рональда Рэйгана і ад былога прэзыдэнта Ніксана. Аў-

(Заканчэньне на 6-ай бач)

---

## „СКАЗ ПРА ЛЫСУЮ ГАРУ"

На Захад трапіла нядаўна сатырычная самвыдавецкая паэма пачатку 1970-х гадоў „Сказ пра Лысую Гару" (12 старонак машынапісу), у якой апісваюцца захады-клопаты беларускіх савецкіх пісьменьнікаў вакол сваіх дачаў ды гародаў. У паэме, аўтар якое няведамы, даюцца войстрыя характарыстыкі паасобным пісьменьнікам-службістым і кар'ерыстым ды асуджаецца таксама савецкая русыфікацыйная палітыка, ейныя выявы ў пісьменьніцкім асяродзьдзі. У канцы паэмы даецца вельмі трапная характарыстыка савецкай эпохі, пазначанай карытным мяшчанствам і матар'ялізмам.

З паэмай „Сказ пра Лысую Гару" пазнаёмім чытачоў у адным з бліжэйшых нумароў „Беларуса".

---

Галіна Румянцава

## ПЯСЬНЯР

**Прысьвячаецца Данчыку Андрусышыну**

Сэрца голас кранае,
як прамень,
залаты —
ў чыстым полі крыніцы
із сьцюдзёнай вады.
Гнуцца вербы ад ветру,
ноч Купалы цьвіце...
Песьнямі маладою
Беларусь праплыве.
Праляціць жыравамі,
крыламі ў даль заве...
Ды ня рві ты гітару...
і зь гітарай — мяне.

А разлучымся зь песьняй,
дзе на родных палёх —
басаногай Алесяй
песьні зьявяцца ў снох.
Васільком сінявока
ў жыце дзесь расьцьвітуць...

Ты пра русыя косы
Можаш зноў спамянуць.
Зноў сьпявай мне ў Нью Ёрку
пра люстэркі і вазёр,
пра дубровы і зоркі
ды пра тых жураваў,
што лятуць на Палесьсе —
хоць страляй, хоць лаві...
Хай натхняць цябе песьні —
два крылы,
дзьве любві.

Верасень 1980 г.
Пераклаў з расейскай **К. Акула**

---

**СЬВ. ✝ ПАМ.**

## САВА ШВЭДЗЮК

памёр у красавіку 1980 г. па кароткай, але цяжкой хваробе.

Нябожчык нарадзіўся ў 1893 г. ў Патапавічах на Піншчыне, дзе й жыў зь сям'ёй да мінулае вайны. У лютым 1940 г. сьв. пам. Сава Швэдзюк быў арыштаваны савецкай уладай ды разам зь сям'ёй вывезены ў Архангельскую вобласьць як „спэцыяльна пераселены". У 1942 г., па амнэстыі для былых польскіх грамадзянаў, пераехаў (з усёй сям'ёй) у Іран. Тут сьв. пам. Саву Швэдзюка ўзялі ў польскую армію гэн. Андэрса, зь якою церазь Іран, Палястыну, Эгіпет ды Італію прыехаў у Ангельшчыну, дзе да яго далучылася сям'я. Быў нябожчык сябрам праваслаўных прыходаў.

Сьв. пам. Сава пахаваны ў Манчэстары. Пахавальны праваслаўны абрэд выканалі аа. Арсені, Міхаіл і Кірыла.

Сьв. пам. Сава Швэдзюк пакінуў у вялікім смутку жонку Марыю, дзяцей, унукаў і праўнукаў у Ангельшчыне ды сёстраў і радню на Беларусі.

Няхай ангельская зямелька будзе яму пухам.

**М. Ш.**

 

## КНІГА ПАЭТЫЧНАЕ СПАДЧЫНЫ АЛЕСЯ САЛАЎЯ

Друкаваньне кнігі творчасьці Алеся Салаўя зацягнулася, бо, як вывілася, яна будзе на бачынаў сто большая як меркавалася. Карпатліва праведзеныя пошукі друкаванае й недрукаванае спадчыны Паэты выявілі больш ягоных твораў, як спачатку дапушчалася. Усе тэксты паэты ўжо набраныя. Пасьля закончанае працы над уводным артыкулам кніга будзе здадзеная ў друк.

Управа Інстытуту шчыра дзякуе ўсім, якія шчодра падтрымалі справу збору падпіскі й ахвяраў на выданьне літаратурнае спадчыны выдатнага Паэты. Да 1 студзеня 1981 г. з падпіскі й ахвяраў фонд выданьня кнігі, разам з банкавымі працэнтамі, узрос да **6298.84 дал.** Дзеля большае на 30% вялічыні будучае кнігі — не „каля 300", але каля 400 бачынаў — ды шпарка растучых коштаў друку, цана кнігі — 15.00 дал. — захоўваецца толькі пры папярэдняй падпісцы. З выхадам кнігі з друку яна будзе прадавацца па 20.00 дал. Кніга ілюстраваная, на добрай паперы, у цьвярдой вокладцы праекту мастачкі Ірэны Рагалевіч.

Падпіску — 15.00 дал. — і ахвяры на выданьне кнігі трэба слаць на адрыс:

Byelorussian Institute of Arts and Sciences
3441 Tibbett Ave., Bronx, N. Y. 10463, N.S.A.

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

## ГАДАВЫ БАЛЬ

Шосты гадавы баль Этнічнае Спадчыны ,арганізаваны Цэнтрам Мастацтваў штату Нью Джэрзі, адбудзецца **ў сыботу 21 лютага ў**

The Town and Campus Restaurant
Morris Ave., Union, N. J.

Кіраўнік праграмы балю сёлета — Беларуска, добра ведамая нашаму грамадзтву сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко. Білеты можна замаўляць у сп-ні Ірэны Дутко або сп-ні Pat De Prospero, 245 Forest Rd., Fanwood, N. J. 07023.

## ТЫДЗЕНЬ СЛАВЯНСКІХ КУЛЬТУРАЎ

**Заканчэньне з 5-ай бач.)**

дыторыі былі прадстаўленыя старшыні й прадстаўнікі славянскіх арганізацыяў, прысутныя карэспандэнты ды іншыя выдатныя асобы. Ад Беларусаў — Яго Эксцэленцыя Архіепіскап БАПЦ Мікалай, сп. А. Шукелайць, старшыня галоўнай управы БАЗА, др. В. Тумаш, старшыня БІНіМ, сп-чна Аня Бойчук і сп. Юрка Кіпель, прадстаўнікі АБАМ.

У мастацкай частцы выступіў сп. Андрэй Дабранскі, ведамы сьпявак Мэтрапалітэнскай Опэры Нью Ёрку.

Ад 10-га да 15-га лістапада трывала мастацкая выстаўка з удзелам у ёй 52-х прафэсіянальных мастакоў, зь іх Беларусы: Я. Казьлякоўскі, П. Мірановіч, І. Рагалевіч, Г. Русак, І. Шыманец-Сурвіла і Ст. Тамара. Адказным за наш удзел у выстаўцы быў др. В. Тумаш, сябра мастацкага камітэту Тыдня Славянскіх Культураў.

14-га лістапада, у пятніцу, у памешканьні Украінскага Інстытуту быў праведзены сымпозіюм на тэму „Пашырэньне славянскай этнічнай спадчыны ў Амэрыцы". Кіраўніком сымпозіюму быў сп. С. Крэгер, а вёў яго праф. Р. Легедза, Украінец. Даклады чыталі: ад Беларусаў сп. Вітаўт Тумаш Малодшы, сябра галоўнае ўправы Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскае Моладзі, др. А. Куселевіч ад Палякоў, сп. В. Мантулін ад Расейцаў, сп. Танзонэ ад Славакаў, др. Л. Кляўз ад Славэнцаў і др. Р. Легедза ад Украінцаў.

Дыскусія па дакладах была цікавая й павучальная, даўжэй спыніліся на важнай праблеме й спосабах ейнага разьвязаньня — як перахаваць і перадаць народную спадчыну маладому пакаленьню?

Факт удзелу ў сымпозіюме беларускага прадстаўніка маладога пакаленьня сп. В. Тумаша зрабіў на прысутных добрае ўражаньне.

Выстаўка народнага мастацтва была адкрытая 15-га й працягвалася 16-га лістапада. Экспанаваліся народныя вырабы васьмёх славянскіх групаў. Беларуская выстаўка была аднэй з найпрыгажэйшых. Экспанаты далі сп-ні: З. Станкевіч. Р. Станкевіч, Ю. Андрусышына й сп. А. Шукелайць. У часе выстаўкі былі выступленьні на сцэне: народныя танцы й песьні. Выступалі Украінцы. Расейцы, Славакі й Славэнцы. Шмат смачнай ежы можна было паспрабаваць на сталох, застаўленых славянскімі традыцыйнымі стравамі. Падзяка належыцца сп-ні Яніне Каханоўскай за надзвычайна ўдалыя макоўнікі, якія разыйшлі гэтак хутка.

У часе Тыдня славянскіх культураў адчынілася выстаўка кнігаў у ньюёркаўскай галоўнай Публічнай Бібліятэцы на тэму народнага славянскага мастацтва.

Абвестка праграмы Тыдня была выдрукаваная ў шмат якіх англамоўных і славянскіх газэтах Нью Ёрку, а таксама перададзеная праз гарадзкую радыястанцыю Нью Ёрку.

Рэпартажы пра Тыдзень славянскіх культураў перадалі ў краі Усходняе Эўропы радыястанцыі „Свабода" й „Вольная Ёўропа".

Тэлевізійная група з Заходняй Нямеччыны наведала выстаўку народнага мастацтва і зьняла яе на фільм, які мае быць уключаны ў дакумэнтальны фільм пра Нью Ёрк для заходня-нямецкага тэлябачаньня.

Дзякуючы лепшаму падрыхтаваньню й цясьнейшаму супрацоўніцтву славянскіх групаў, вынікі сёлетняга Тыдня славянскіх культураў былі больш удалыя як папярэднімі гадамі.

**Раіса Станкевіч**

## РОСТ РЭЛІГІЙНАСЬЦІ

Як падаецца ў газэце „Чырвоная зьмена" (артыкул спэцкарэспандэнта В. Шыханцова „ ,Бяскрыўдны' крыжык", у нумары ад 18 кастрычніка 1980 г.), у Мядзельскім раёне „дзейнічаюць пяць касьцёлаў і дзьве царквы". Атэістычную прапаганду ў раёне вядзе райком камсамолу, пры якім, як інфармуе спэцкарэспандэнт „ЧЗ", створаны савет маладых атэістаў, актыўна дзейнічае лектарская група".

„Але, на жаль, — жаліцца Шыханцоў, — работа па выкараненьню хібаў (г. зн. рэлігійных перакананьняў — рэд. „Б-са") недастатковая. Інакш, чым можна растлумачыць той факт, што колькасьць маладых людзей, якія вянчаюцца і хрысьцяць дзяцей, з кожным годам павялічваецца?"

Паводля „Чырвонае зьмены", органу ЦК камсамолу рэспублікі, летась у Мядзельскім раёне „19 маладых пар абвянчаліся, а 151 нованароджанага ахрысьцілі".

**Насьценны Беларускі Каляндар на 1981 год** выдала парахвія БАПЦ Сьвятое Маці Жыровіцкае ў Гайлэнд Парку.

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

Ня з нашае віны здарылася так, што ня былі пададзеныя ў №283-284 (за лістапад і сьнежань) некаторыя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса". Робім гэта цяпер:

1. Управа і сябры Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі пераслалі у Рэдакцыю 150.00 аўстр. дал., што у пераліку ў амэрыканскую валюту склала **$ 175.92.**

Пераслала грошы Сп-ня А. Мароз — скарбнік.

2. М. Пруські ЗША — 15 дал., 3 С. Красоўскі ЗША — 15 дал., 4 Др. І. Р. Лёхар — 10.00 (Швайцарыя).

**Разам: $ 215.92**

Вышэй пададзеная сума будзе ўлучаная у суму гадавой справаздачы.

**Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус"**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

За папярэдні пэрыяд (у лістападзе 1980 г.) на газэту „БЕЛАРУС" **замест кветак на магілу** Сьв. Пам. Станіслава Станкевіча была перасланая ахвярадаўцамі сума **$ 420.00 дал.** ад жыхароў ЗША.

Імёны ахвярадаўцаў былі пададзеныя ў № 283-284 газэты.

### І. АЎСТРАЛІЯ:

Замест кветак на магілу Сьв. Пам. Др. Ст. Станкевіча ахвяры на Выдавецкі Фонд газэты зложылі:

1. Беларускае Аб'еднаньне у Новай Паўдзённай Валіі 100.00
2. М. Мілеўскі ........ 30.00
3. А. Качан ........ 20.00
4. А. Бакуновіч ........ 10.00
5. М. Бакуновіч ........ 10.00
6. Я. Гавеньчык ........ 10.00
7. А. Каранеўская ........ 10.00
8. В. Л. ........ 10.00
9. С. Нарушэвіч ........ 10.00
10. Сп-ня Л. Олрайт ........ 10.00
11. М. Сэзановіч ........ 10.00
12. Сп-ва Супрунчакі ........ 3.00
13. М. Зуй ........ 2.00
14. В. Марчанка ........ 2.00
15. В. Плахоцкі ........ 2.00
16. А. Смаль ........ 2.00
17. М .Ціхан ........ 2.00

**Разам: 243** аўстралійскія даляры, што ў пераліку на амэр. валюту дало **$276.88**

### II. АНГЕЛЬШЧЫНА:

**Заміж вянка на магілу** Сьв. Пам. Ст. Станкевіча Аддзел ЗБВБ у Брадфардзе пераслаў **30 ангельскіх фунтаў** на газэту „Беларус". Ахвярадаўцы:

1. Клюб „Сакавік" ........ 12.40
2. Ф. Лемяшонак ........ 2.00
3. С. Мак ........ 2.00
4. М. Швэдзюк ........ 2.00
5. Я. Ясьвіловіч ........ 2.00
6. М. Віценчык ........ 1.00
7. К. Абабурка ........ 1.00
8. А. Куцько ........ 1.00
9. А. Сланімскі ........ 1.00
10. Я. Калбаса ........ 1.00
11. В. Сух. ........ 1.00
12. а. Янка Абабурка ........ 1.00
13. Б. Кляйноў ........ 1.00
14. М. Камароўскі ........ 1.00
15. С. Ціток ........ 0.50
16. Е. Каралькоў ........ 0.10

**Разам: $ 30.00**

І заміж вянка на сьвежую магілу Сп-ні Маргарэты Пэйлі зь Лёндану Аддзел ЗБВБ перасылае 5.00 ангельскіх фунтаў на газэту „Беларус".

**Усяго разам на газэту „Беларус" — 35.00 ачг. фунтаў.**

**За папярэдні пэрыяд (у лістападзе) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

А. **Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

1. В. Грышчук ........ $ 100.00
2. А. Лук'янчык ........ 100.00
3. Мастэр Констракшэн Компані ........ 50.00
4. Н. Арсеньнева ........ 50.00
5. С. Гулевіч ........ 30.00
6. Т. Новік ........ 25.00
7. Л. Мазуро ........ 20.00
8. Ул. Сенька ........ 20.00
9. В. Стаўпецкі ........ 12.00
10. Др. В. Грабінскі ........ 10.00
11. Л. Норык ........ 10.00
12. А. Шукелайць ........ 10.00
13. Я. Каханоўская ........ 10.00
14. Ч. Найдзюк ........ 10.00
15. М. Бранум ........ 10.00
16. Е. Зубковіч ........ 10.00

**Разам: $ 477.00**

**Б. Заплачана за газэту прадстаўніку „Беларуса" ў Нью Джэрзі сп. Браніславу Даніловічу:**

1. А. Шастак ........ $ 20.00
2. В. Сітнік ........ 20.00
3. М. Палюховіч ........ 20.00
4. К. Пыхар ........ 20.00
5. В. Валаткевіч ........ 20.00
6. А. Дубовік ........ 20.00
7. Аддзел ЗБАВ ў Нью Джэрзі за клішу ........ 20.00
8. А. Койка ........ 15.00
9. М. Сенька ........ 12.00
10. Ю. Наумчык ........ 10.00
11. Б. Даніловіч ........ 10.00
12. В. Стома ........ 10.00
13. А. Балкоўскі ........ 10.00
14. А. Субота ........ 10.00
15. А. Непеін ........ 10.00

**Разам: $ 227.00**

### II. АЎСТРАЛІЯ:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

1. М. Скабей ........ $ 35.00
2. Др. Я. Малецкі ........ 10.00

**Разам: $ 45.00**

**Б. Заплачана прадстаўніку „Беларуса" сп-ні А. Каранеўскай суродзічамі ў Сыднэі й ваколіцах у аўстралійскай валюце:**

1. М. Лужынскі ........ $ 100.00
2. М. Бакуновіч ........ 20.00
3. Сям'я Нарушэвічаў ........ 20.00
4. А. Качан ........ 20.00
5. Сп-ня В. Качан ........ 10.00
6. Сп-ня Л. Грыцай ........ 10.00
7. Я. Гавеньчык ........ 10.00

**Разам ў аўстрал. дал. 190.00**

У амэрыканскіх далярах па 10.00 на сьвяточныя пажаданьні склалі:

1. М. Бакуновіч ........ 10.00
2. Сям'я Нарушэвічаў ........ 10.00
3. Я. Гавеньчык ........ 10.00
4. Сям'я Л. і Я. Грыцай ........ 10.00

**Разам: 40.00 амэр. дал.**

**Усяго разам ад сп-ні А. Каранеўскай у амэрыканскай валюце: $ 263.43**

### III. КАНАДА:

1. Я. Сурвілла ........ **$ 100.00**
(90.00 — ахвяра на газэту, 10.00 — падпіска).

**Усяго разам у лістападзе 1980 г.:**
**(ам. дал.) $ 1,809.31**
**і (англ. фунтаў) 35.00**

**За папярэдні пэрыяд (у сьнежані 1980) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

**Прыслана безпасярэдня ў Рэдакцыю замест кветак на магілу Сьв. Пам. Ст. Станкевіча наступныя ахвяры на „Беларуса":**

1. Сп-ня Е. Жызьнеўская ........ $ 100.00
2. Ч. Найдзюк ........ 30.00
3. Н. Жызьнеўскі ........ 20.00

**Разам: $ 150.00**

**У Кліўленьдзе склалі ахвяры на „Беларуса" замест кветак на магілу Сьв. Пам. Ст. Станкевіча:**

1. К. Калоша ........ $ 70.00
2. П. Б. ........ 25.00
3. К. Каляда ........ 10.00
4. А. Яраховіч ........ 10.00
5. Я. Каваленка ........ 10.00
6. А. Стрэчань ........ 10.00
7. В. Сьпічонак ........ 5.00

**Разам: $ 140.00**

Зьбіральнік ахвяраў: П. Б.

**А. Заплачана сп-ру А. Стрэчаню суродзічамі ў Кліўленьдзе на газэту „Беларус":**

1. В. Сергіевіч ........ $ 40.00
2. А. Стрэчань ........ 30.00
3. К. Калоша ........ 20.00
4. Ю .Насыцьвіяў (Нячытальна) ........ 20.00
5. Я. Раковіч ........ 20.00
6. В. С. ........ 15.00
7. О. Яраховіч ........ 15.00
8. Я. Каваленка ........ 12.00
9. А. Шастак ........ 12.00
10. К. Маталыцкі ........ 12.00
11. А. Каначук ........ 12.00
12. К. Каляда ........ 12.00
13. В. Сацэвіч ........ 10.00
14. П. Б. ........ 10.00
15. М. Страпко ........ 10.00

З продажу газэты: 13.00

**Разам: $ 263.00**

**Б. Пераслана ў Рэдакцыю:**

1. Н. Латушкін ........ $ 25.00
2. П. Драздоўскі ........ 30.00
3. І. Муха ........ 10.00
4. Сп-р Даніловіч (Золак) ........ 10.00
5. Сп-р Бахар ........ 10.00
6. Сп-ня Л. Гутырчык ........ 10.00

**Разам: $ 95.00**

### II. ФРАНЦЫЯ:

Ад Сп-ра Б. Нагорнага атрымалі чэк на (ам. дал.) **$47.28**

### III. АНГЕЛЬШЧЫНА:

Сп-ня Н. Якубовіч пераслала **$12.00**

**Усяго разам у сьнежані 1980 г. (ам. дал.) $ 707.28**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

***

Пасьля перасланьня ў друкарню пераліку атрыманых ахвяраў і падпіскі на „Беларуса" надыйшло яшчэ колькі лістоў. У адным зь іх, ад доўгагадовага прыяцеля газэты, былі словы: „Жадаю Рэдакцыі Шчасьлівага Новага Году, а для „Беларуса" пасьпяховага выдаваньня. **Памажы Божа!"**

### I. ЗША:

1. І. П. Г. ........ $ 150.00
2. Др. А. Занковіч ........ 100.00
3. Сп-ня М. Дубоўская ........ 30.00
4. М. Грэбень ........ 25.00
5. Я. Арцюх ........ 25.00
6. А. і Б. Кажан ........ 25.00
7. С. Антонік ........ 20.00
8. В. Казлоўскі ........ 20.00
9. В. Вакзэліс для Сп-ні А. Вазноніс ........ 10.00

**Разам: $ 405.00**

### II. АЎСТРАЛІЯ:

**„Падарунак Беларусу" склала Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Паўдз. Аўстраліі ад сваіх прыхаджанаў:**

1. З касы Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстралі ........ 20.00
2. В. Міленцэвіч ........ 10.00
3. В. Зеленеўскі ........ 10.00
4. М. Бурнос ........ 10.00
5. Айцец Я. Сітнік ........ 10.00
6. У. Акавіты ........ 5.00
7. Я. Ролсан ........ 5.00
8. Сп-р Цітовіч ........ 5.00
9. К. Станкевіч ........ 5.00
10. А. Сухаверка ........ 5.00
11. Л. Журомскі ........ 2.00
12. Я. Кашкевіч ........ 2.00
13. У. Шатшурын ........ 2.00
14. Я. Дзівак ........ 2.00
15. М. Кубрак ........ 2.00
16. У. Жаваранак ........ 2.00
17. А. Чорнагалан ........ 2.00
18. Сп-ня М. Савіцкая ........ 2.00
19. Я. Палюховіч ........ 2.00
20. О. Кулініч ........ 2.00
21. В. Яновіч ........ 2.00
22. П. Трысмакоў ........ 2.00
23. П. Пачопка ........ 2.00
24. В. Лемешэўскі ........ 2.00
25. В. Калесьніковіч ........ 2.00
26. М. Кандрусік ........ 1.00
27. Л. Шпак ........ 1.00
28. В. Дытман ........ 1.00
29. В. Фролаў ........ 1.00
30. Б. Майсейчук ........ 1.00

**Разам аўстралійскіх $ 120.00**
што ў пераводзе на валюту ЗША дало: ........ **$ 135.58**

**Зьбіральніку грошай на Падарунак для „Беларуса" сп-ру Я. Акавітаму ды ўсім ахвярадаўцам-прыхаджанам БАПЦарквы у Паўдз. Аўстраліі і суродзічам з ЗША за дапамогу ды Новагоднія пажаданьні Рэдакцыйная Калегія выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

**Усяго разам за сьнежань: $ 1247.86**

**Усяго разам (за лістапад і сьнежань): $3057.17**
**і 35.00 англ. фунтаў.**

**Самвыдавецкую паштоўку да 1000-годзьдзя гісторыі Беларусі**, выдадзеную ў БССР і перавыдадзеную Згуртаваньнем Беларусаў Вялікабрытаніі, даволі дэтальна й крытычна апісаў Р. Палчанінаў у газэце „Новое Русское Слово", што выходзіць у Нью Ёрку, у нумары за 14 сьнежня летась.

**Чытайце, вышісвайце,**
**пашырайце газэту Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„БЕЛАРУС"**